

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

**УВАГА! Пачалася падпіска на «ГС» на І-е паўгоддзе 2000 года**

№ 47 (128). 18 — 24 лістапада 1999г. • **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** • Кошт 40.000 руб.


# ВОСЕНЬСКІ КІРМАШ

**У мінулую нядзелю ў цэнтры Слоніма адбыўся восеньскі кірмаш.**

На жаль, ён не быў такім багатым на калгасную садавіну і агародніну, на прамысловыя вырабы, як у мінулыя гады. Мусіць, бяднее народ, бяднеюць прадпрыемствы, бяднее дзяржава. Людзі на кірмашы ў асноўным куплялі камбікорм, які каштаваў па 48 тысяч рублёў за кілаграм, крупы, капусту і яйкі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**





Фота Віталя ГІЛЯ

*Так у мінулую нядзелю слонімцы назапашвалі на зіму камбікорм*

## ЗДАРЭННІ

### Дзяўчыну знайшлі на праспекце

**16 лістапада ў 5 гадзін 20 мінут у слонімскую міліцыю патэлефанаваў невядомы і паведаміў, што на праезджай частцы праспекта Незалежнасці ў непрытомным стане ляжыць маладая дзяўчына.**

Аператыўная група, якая прыбыла на месца здарэння, устанавіла, што пацярпеўшай з'яўляецца 18-гадовая сланімчанка Святлана Дубовік. Праз паўтары гадзіны яна памерла ў бальніцы. Прычына смерці – шматлікія калецтвы і агульнае пераахаладжанне арганізма.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Футбаліст "Камунальніка" трапіў у аварыю

**Дзмітрый Капельян, 22-гадовы абаронца слонімскага "Камунальніка", трапіў у аўтамабільную аварыю.**

Высветлілася, што Капельян ехаў у Мазыр разам з іграком барысаўскага БАТЭ Віктарам Ганчарэнкам. Вадзіцель іх аўтамабіля заснуў за рулём... На шчасце, атрыманыя футбалістамі траўмы аказаліся бясспечнымі. 16 лістапада Дзмітрый Капельян яшчэ знаходзіўся ў мінскай бальніцы, але ў пятніцу яго павінны былі выпісаць.

**Сяргей ЁРШ**

### Украў і... папаўся

**Днямі ў міліцыю звярнулася жыхарка К. з вёскі Бракава Слонімскага раёна.**

Яна паведаміла, што пакуль гасцявала ў дачкі, з яе хаты ўкралі тэлевізар, пыласос і газавы лічыльнік. Міліцыя знайшла злодзея. Ім аказаўся 44-гадовы жывёлавод саўгаса "Пераможац" П. Узбуджана крымінальная справа.

### У лазню на машыне — назад пешшу

**Апоўдні, 14 кастрычніка, са стаянкі, што каля слонімскай гарадской лазні, невядомы ўгнаў аўтамабіль "Фольксваген-Гольф".**

Машына належала слонімцу О. Міліцыя вядзе пошук.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Лавіў парушальнікаў і сам парушыў

**Днямі з працы быў звольнены інспектар Мастоўскай ДАІ Жураўлёў.**

Высветлілася, што інспектар доўгі час ездзіў на незарэгістраванай прыватнай машыне. Выявілі гэта міліцэйскія кантралёры з абласнога УУС падчас рэйду.

**Антон МАКЕЙ**

## НАВІНЫ

### Культура пад замком

**На мінулым тыдні пажарная служба Слоніма апячатала РДК і драмтэатр.**

Як сказаў карэспандэнту "ГС" начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы Васіль Рубец, і раней, у 1996 годзе, эксплуатацыя будынка РДК была часова спынена ў сувязі з тым, што там парушаліся правілы пажарнай бяспекі. Некаторыя недахопы за тры гады былі ліквідаваны, але большасць з іх засталася да сённяшняга дня. РДК адкрываўся, і яго кіраўніцтву рэкамендавалася выправіць недахопы. На мінулым тыдні абласное ўпраўленне пажарнай аховы зноў закрыла РДК і драмтэатр. Гэтыя ўстановы будуць адчынены тады, калі ўнутранае абсталяванне будзе адпавядаць нормам пажарнай бяспекі, – сказаў Васіль Рубец.

Напярэдадні выхаду газеты (16 лістапада) наш карэспандэнт папрасіў пракаменціраваць гэтую сітуацыю старшыню Слонімскага райвыканкама Станіслава Здановіча. Станіслаў Тадэвушавіч, у прыватнасці, адзначыў, што сур'ёзных недахопаў, якія парушаюць пажарную бяспеку, у РДК амаль няма. Ёсць сякія-такія праблемы, на якія пажарным можна было нават не звяртаць увагі. Ну, напрыклад, не прапітана "адзенне сцэны" супрацьпажарнай вадкасцю. А фірмы, якая займаецца такімі відамі паслуг, у Слоніме, наогул, няма. Тым не менш, недахопы выпраўляюцца, хоць на гэта патрэбны вялікія сродкі. Хочацца спадзявацца, што ў гэтую суботу, 20 лістапада, мы ў РДК усё ж правядзём раённае свята сельскай гаспадаркі, – сказаў Станіслаў Здановіч.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Перад фактам

**Па рашэнню Слонімскага райвыканкама ад 10 лістапада бягучага года на 100% павялічаны кошт праезду ў прыгарадных аўтобусах па выхадных днях і па пятніцах.**

Для многіх пасажыраў у пятніцу, 12 лістапада, гэта рашэнне стала поўнай нечаканасцю, бо ніякіх афіцыйных паведамленняў пра падаражанне напярэдадні зроблена не было. Аднак кошт квітка, напрыклад, да Паўлава на маршрутным аўтобусе "Слонім – Дзятлава" з 51 тысячы вырас да 102 тысяч рублёў. Пасажыраў літаральна паставілі перад фактам.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам "ГС" упраўляючая справамі райвыканкама Лізавета Мукасей пацвердзіла і той факт, што, згодна з рашэннем райвыканкама, пасведчанне пенсіянера цяпер не дае права льготнага праезду ў прыгарадных аўтобусах. Льготы захаваны толькі за інвалідамі першай групы і асобамі, якія іх суправаджаюць, за інвалідамі другой групы, за ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, за навучэнцамі слонімскіх вучэльшчаў, жыровіцкага тэхнікума, а таксама за школьнікамі.

Рашэнне ад 10 лістапада, па словах работнікаў райвыканкама, абумоўлена высокімі цэнамі на бензін і фінансавымі праблемамі аўтобуснага парка.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Каму перашкаджаюць святлафоры?

**У апошні час у Слоніме пачасціліся выпадкі пашкоджання святлафораў.**

Па словах механіка спецыялізаванага прадпрыемства па абслугоўванню святлафораў Барыса Данілюка, у Слоніме ўстаноўлена 42 святлафоры. Амаль кожны тыдзень на 2-3-ох з іх даводзіцца мяняць разбітыя святлалінзы.

– У сувязі з гэтым наша прадпрыемства нясе значныя страты, бо кошт адной святлалінзы складае каля 10 даляраў, – сказаў Барыс Данілюк.

### У Слоніме — 873 беспрацоўныя

**Па стану на 1 лістапада ў Слоніме афіцыйна зарэгістравана 873 беспрацоўныя.**

Дырэктар Слонімскага цэнтра занятасці насельніцтва Ганна Мазюк паведаміла, што за 10 месяцаў 1999 года па пытаннях працаўладкавання ў цэнтр звярнулася 3150 чалавек. У большасці гэта людзі, якія звольніліся з працы па ўласнаму жаданню (49,6 %). Сёлета пры садзейнічанні службы занятасці працаўладкавалася 1907 слонімцаў. 267 чалавек атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю, сярэдні памер якой складае 1 млн. 319 тыс. рублёў. На працягу 10 месяцаў ад прадпрыемстваў і ўстаноў горада паступіла 1715 заявак на вакантныя працоўныя месцы.

– У мэтах скарачэння ўзроўню беспрацоўя 152 чалавекі накіраваны на вучобу ў ПТВ-129, дзе яны атрымаюць спецыяльнасці прадаўцоў, повараў і цырульнікаў, – сказала Ганна Мазюк.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



## НАВІНЫ

### Стыпендыяты аблвыканкама

**У Гродне былі ўручаны дзесяць штогадовых стыпендый абласнога выканаўчага камітэта лепшым вучням Гродзеншчыны.**

Такія стыпендыі прадугледжаны праграмай "Адораныя дзеці", якая была прынята вясной 1998 года.

Са Слоніма стыпендыятамі сталі вучні СШ № 3 Васіль Беладзед і Вольга Дземянчук. У дзесятку лепшых трапіў таксама вучань Раклевіцкай базавай школы Дзмітрый Кузьма з Дзятлаўскага раёна.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Зарплату выдали карточками

**На гродненском производственном объединении "Азот" впервые в Беларуси начала действовать новая система выплаты заработной платы.**

Эта качественно новая система расчетов введена "Приорбанком". Работники "Азота" получили зарплату не наличными деньгами, а на магнитных карточках, которые являются карточками европейского образца. Пользователи могут рассчитаться с их помощью в 11 гродненских магазинах, а также получить наличные в специальных банкоматах и пунктах выдачи денег. При остатке денег на картсчете пользователь будет получать проценты. В случае утери карточки нужно в течение суток позвонить по работающему круглосуточному телефону, после чего она будет заблокирована.

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Навялі масты

**У мінулую суботу ў вёсцы Харашэвічы Слонімскага раёна ўведзены ў строй новы 20-метровы мост праз раку Іса.**

Напярэдадні адкрыцця руху праз мост, былі праведзены яго выпрабаванні. Збудаванне паспяхова вытрымала 15-тонны грузавік. Па ініцыятыве дэпутата райсавета Васіля Афанасіка мост пабудавалі воіны інжынерна-сапёрнай службы 11-й механізаванай брыгады.

А за дзень да гэтага, у пятніцу, нарэшце быў пабудаваны пешаходны мост праз раку Шчара ў раёне мэблевай фабрыкі.

Нагадаем, што былы драўляны мост падчас веснавой паводкі быў знесены крыгаходам. Новы мост, сабраны з металічных мачтаў, устаноўлены высока над вадой на дзвюх апорах.

Як і ў мінулы раз, мост пабудавалі рабочыя мясакамбіната і мэблевай фабрыкі.

### Газавая чарга

**Як мы ўжо паведамлялі, з верасня напалову зменшылася паступленне звадкаванага газу для насельніцтва Слонімскага раёна і горада Слоніма.**

Па стану на 16 лістапада чарга на атрыманне балона з газам склала больш за 400 чалавек. Тэлефон службы па прыёму заявак упраўлення "Слонімміжрайгаз" літаральна разрываецца ад званкоў абураных людзей.

Як паведаміла карэспандэнту "ГС" дыспетчар Марыя Кулак, на мінулым тыдні Лідская газанапаўняльная станцыя не выдзеліла Слоніму ні аднаго балона з газам, а з Гродзенскай ГНС прывозяць толькі па 200-230 балонаў.

Найбольш прадбачлівыя слонімцы пачалі набываць электрапліткі і даўно забытыя керагазы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Знак у памяць пра Касцюшку

**У Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці ўрачыста быў адкрыты мемарыяльны знак у памяць пра нашага знакамітага земляка Тадэвуша Касцюшку, палітычнага і вайсковага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года.**

"Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, вялікі сын Беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным Героем Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, Ганаровым грамадзянінам Францыі", – напісана на памятнай дошцы.

**БелаПАН**

# КАЖЕТСЯ, ВЛАСТЬ ДАЕТ ОППОЗИЦИИ ТРИБУНУ

**Уже в этот четверг в эфире национального телевидения может появиться передача, подготовленная белорусской оппозицией в рамках предполагаемых переговоров с белорусскими властями при посредничестве ОБСЕ.**

Об этом в интервью "Интерфаксу" заявил помощник Президента Михаил Сазонов.

Он сообщил, что экспертные группы от правительства и оппозиции парафировали протокол согласования условий доступа политической оппозиции к государственным СМИ. Сегодня данные документы переданы для утверждения Консультативному совету оппозиционных политических партий. В свою очередь, правительственная сторона выразила готовность их подписать.

Стороны договорились, что национальная государственная телерадиовещательная компания предоставит политической оппозиции эфирное время в информационно-аналитических программах "Политические диалоги" (каждый четверг) и "Событие" (два раза в неделю), в информационной программе "Панарама", а также в программах областных телерадиообъединений. Оппозиции будет предоставлен доступ на радио в программах "Диалог по существу", в информационных программах "Радиофакт" и "Постфактум-радио".

Помощник Президента сообщил, что в дальнейшем стороны готовы обсудить вопрос о создании на телевидении и радио новых общественно-политических программ, позволяющих вести в прямом эфире открытый диалог власти и оппозиции, политических партий между собой по насущным проблемам внутренней и внешней политики республики.

Экспертные группы также достигли согласия в том, что республиканские периодические печатные издания ("Советская Белоруссия", "Народная газета", "Звязда", "Рэспубліка" и "Белорусская нива") введут постоянные рубрики для размещения материалов, предоставленных политической оппозицией".

В то же время представители белорусской оппозиции полагают, что политические партии могут не получить доступа к государственным средствам массовой информации, невзирая на подписание соответствующего соглашения с рабочей группой, представляющей в ходе переговоров при посредничестве ОБСЕ правительственную сторону. Об этом в интервью "Интерфаксу" заявил депутат Верховного Совета 13-го созыва Владимир Нистюк, являющийся в настоящее время одним из активистов оппозиции. Он высказал предположение, что белорусские власти намерены ограничиться подписанием Протокола согласования условий доступа оппозиции к государственным СМИ на период подготовки переговоров между правительством и политическими партиями. "Они приедут в Стамбул (на саммит государств ОБСЕ), потрясая документами, однако никто из оппозиции не получит доступа к СМИ", считает В.Нистюк.

Кроме того, как ожидается, большинство оппозиционных политиков выразят желание опубликовать свои материалы в "Советской Белоруссии", тираж которой намного превышает тиражи других государственных изданий. Организационно-технические условия доступа политической оппозиции к СМИ предусматривают, что состав участников телевизионных программ, а также дни выхода в эфир программы "Событие" определяются Консультативным советом политических партий (КС) не позднее чем за 4 дня до эфира.

**Б.П.**

## НАВІНЫ

### Наташа — пераможца конкурсу

**Наташа Грасевіч (на здымку) стала пераможцай конкурсу на лепшае сачыненне на тэму "Бацькі маіх бацькоў", які праводзіла рэспубліканская газета "Раніца".**



Фота Віталя ГІЛЯ

Яна заняла другое месца, за што атрымала каштоўныя падарункі. Дзяўчынка вучыцца ў Слонімскай дзесятай школе ў сёмым класе.

# ВАСИЛИЙ СТАРОВОЙТОВ ВЫШЕЛ НА СВОБОДУ

**Освобождение 11 ноября бывшего руководителя ЗАО "Рассвет", дважды Героя Социалистического Труда Василия Старовойтова из колонии УЖ-15/8 города Орши (Витебская область) происходило в экстренном порядке. Об этом в беседе с корреспондентом БелаПАН сообщил сам В.Старовойтов.**



По его словам, рано утром 11 ноября его вызвал начальник колонии и заявил, что его решено освободить немедленно, чтобы не устраивать возле учреждения "спектаклей и демонстраций". В.Старовойтову дали возможность связаться с родственниками, и около восьми утра, сразу после поверки, он был освобожден под административный надзор. В поселке Мышковичи Кировского района Могилевской области его встретил полупустой дом, так как накануне судебные исполнители вывезли значительную часть мебели. В.Старовойтову, по его словам, звонили десятки людей и поздравляли с освобождением. Среди звонивших был, в частности, руководитель консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ Ханс-Геог Вик, который выразил желание встретиться со Старовойтовым в ближайшие дни.

Сатровойтов сообщил, что примерно за неделю до освобождения с ним встретился министр внутренних дел Беларуси Юрий Сиваков, посетивший оршанскую колонию. Разговор шел на общие темы. В ходе этой встречи Старовойтов обратился к министру, как к высокопоставленному руководителю, с просьбой доложить о ситуации в тюрьмах лично А.Лукашенко.

Что касается непосредственно оршанской колонии, то, по словам Старовойтова, она переполнена: ранее здесь содержались около полутора тысяч человек, сейчас — 4 700. Всего же в стране, как сообщил глава МВД, в местах лишения свободы находится сто тысяч осужденных. "Процентов 50 из них можно выпустить, — считает Старовойтов. — За что сидят эти люди? Украл 15 бутылок — получил три года... Сейчас "на зоне" работы мало, и сидят эти здоровые мужики, ничего не делают, только хлеб проедают. Люди обозлены, недовольны, но пока молчат. От них, конечно, Лукашенко поддержки уже не получит".

Впрочем, экс-руководитель "Рассвета" сомневается, что его слова дойдут до президента. Политика снятий с должности и посадок для Лукашенко принципиальная, считает Старовойтов. Сам он после встречи с Сиваковым сделал вывод о том, что власти все же несколько изменили к нему отношение. "Они уже поняли, что возвели на меня напраслину, — считает Старовойтов. — Я не крал пять миллиардов, у меня нет пяти машин и пяти квартир. У меня были сбережения, которые я внес на счет акционерного предприятия "Рассвет", как и еще 450 человек; всего внесли 300 миллиардов. Сейчас эти средства арестованы". Причиной своего ареста Старовойтов считает личную месть А.Лукашенко за то, что не поддержал его во время президентских выборов. В ближайшее время 75-летний ветеран намерен находиться в Мышковичах, отдохнуть и подлечиться. В то же время на здоровье он не жаловался. В тюрьме он держался, как мог: "Там, если не будешь держаться, дашь слабину — погибнешь". Старовойтов категорически не желает участвовать как свидетель в судебном процессе по делу бывшего министра сельского хозяйства и продовольствия Василия Леонова. Он также не готов сейчас ответить, будет ли обжаловать приговор Кировского районного суда, так как считает, что при нынешнем состоянии судебной системы страны — это пустая трата времени.

**Геннадий БАРБАРИЧ**

### Российский МИД уведомил

**МИД России уведомил белорусскую сторону о порядке перемещения через таможенную границу РФ наличной иностранной валюты гражданами иностранных государств.**

Сейчас ввоз наличной иностранной валюты в Россию физическими лицами-нерезидентами осуществляется без ограничений. Письменное декларирование ввозимой наличной иностранной валюты производится по желанию физического лица.

Физические лица-нерезиденты могут вывозить из Российской Федерации наличную иностранную валюту в пределах суммы, ранее ввезенной или переведенной через банк в Российскую Федерацию, с представлением документов, подтверждающих ее ввоз или перевод в Россию.

При вывозе из России наличной иностранной валюты, ранее ввезенной в Российскую Федерацию из Республики Беларусь, основанием для вывоза являются:

- справка формы, выданная уполномоченным банком Республики Беларусь;

- оформленная таможенным органом Республики Беларусь таможенная декларация, подтверждающая ввоз иностранной валюты физическим лицом на территорию Республики Беларусь.

При отсутствии у физического лица-нерезидента документов, подтверждающих ввоз либо перевод иностранной валюты, вывоз наличной иностранной валюты не разрешается. Указанная иностранная валюта может быть передана сопровождающему лицу либо принята на хранение таможенным органом.

**БелаПАН**

### Па сапегаўскіх мясцінах

**У цікавым падарожжы пабывала група старшакласнікаў пятай Мастоўскай школы.**

Яны праехалі па маршруту Масты-Ружаны-Косава. Мэтай паездкі было знаёмства вучняў з гісторыяй гэтых мясцінаў, з тымі выдатнымі помнікамі беларускай архітэктуры, што там знаходзяцца. Вучні пабывалі ў Сапегаўскім палацавым комплексе, Косаўскім палацы, таксама каля памятнага знака ў вёсцы Марачоўшчына, дзе нарадзіўся кіраўнік вызваленчага паўстання 1794 года Тадэвуш Касцюшка.

Падчас паездкі вучні не толькі знаёміліся з гістарычнымі помнікамі, што сведчаць аб нашай багатай шматвекавой гісторыі ды падзеях, што адбываліся на гэтай зямлі шмат гадоў таму назад, але і прынялі актыўны ўдзел у віктарыне па гісторыі Беларусі. Яе пераможцамі сталі Валерый Мядзведзеў, Аляксандр Махнач і Вольга Хаміцэвіч. Ім былі ўручаны каштоўныя прызы.

Паездка пакінула ў дзяцей двраякае ўражанне. З аднаго боку іх захапіла прыгажосць і веліч архітэктурных пабудоў-помнікаў, а з другога — яны засталіся занепакоены тым станам, у якім знаходзяцца гэтыя помнікі архітэктуры рэспубліканскага значэння, якія паступова пераходзяць у заняпад, ператвараюцца ў звычайныя сметнікі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Непрадбачныя расходы

**У калгасе імя Чапаева Мастоўскага раёна на ферме Забалаць за некалькі дзён дарэзалі дзевяць кароў.**

Здарылася гэта пасля таго, як іх папасвілі на полі, дзе раней раслі буракі.

**Антон МАКЕЙ**

### Госдепартамент США не советует

**Государственный департамент Соединенных Штатов рекомендовал гражданам США воздержаться от путешествий в Беларусь, Молдову, Россию и Украину накануне Нового года и до того времени, пока не выяснится, в какой степени эти страны СНГ пострадают от компьютерной проблемы 2000 года.**

Власти США считают, что существует опасность серьезных нарушений в российских энергосистемах из-за неподготовленности компьютеров к переключению даты на 1 января 2000 года. Беларусь, в свою очередь, может пострадать от этого, считают в Госдепартаменте, поскольку страна целиком зависит от поставок российских энергоносителей.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 17 лістапада 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8000 экз.
Заказ № 3014
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

 



НАВІНЫ

## Госці з Галандыі

**Пяты раз на Дзятлаўшчыну прыязджаюць госці з Галандыі.**

Яны аказалі вялікую дапамогу жыхарам вёскі Дварэц, якая знаходзіцца на забруджанай радыёнуклідамі тэрыторыі, а таксама раённай бальніцы. У прыватнасці, гэтыя добразычлівыя людзі раней перадалі медыкам фарбу, лінолiум, пральную машыну. На гэты раз галандцы таксама прыехалі з падарункам. Усе дзеці, якія лечацца ў інфекцыйным аддзяленні бальніцы, атрымалі шапкі. А сама медыцынская ўстанова папоўнілася медвопраткай і пасцельнай бялізнай.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Зимняя акция

**На Гродненщине проходит благотворительная акция "Чрезвычайный зимний призыв".**

Она проводится Международной федерацией Красного Креста и Красного Полумесяца уже в четвертый раз.

Цель акции – помочь малоимущим. Как и прежде, будут формироваться продуктовые и гигиенические наборы для одиноких граждан, многодетных семей, организовываться обеды для бездомных. Кроме того, впервые будут закупаться школьные письменные принадлежности для детей из малообеспеченных семей.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Дзеці вывучаюць гісторыю рэлігіі

**У апошні час шэраг гарадскіх школ Слоніма сталі наведваць каталіцкія і праваслаўныя святары.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік старшыні гарвыканкама Анатоль Бялянін, па жаданню дзяцей дасягнута пагадненне з мясцовымі канфесіямі аб правя-дзенні ў школах факультатыўных заняткаў па гісторыі рэлігіі. Навучанне вядуць ксяндзы, праваслаўныя святары, а таксама студэнты старэйшых курсаў Мінскай духоўнай семінарыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЗДАРЭННЕ

## Чарговы труп

**На ўчастку шашы паміж горадам Масты і вёскай Масты Правыя знойдзены труп мужчыны сярэдняга веку з суседняй вёскі.**

Гэта чарговы наезд на пешахода ў начны час сутак. Такія здарэнні на гэтым участку дарогі адбываюцца даволі часта, і звязана гэта з тым, што многія людзі гэтай вёскі працуюць у горадзе, а паколькі аўтобусы ходзяць вельмі рэдка, то шмат хто з вяскоўцаў дабіраецца на веласіпедзе альбо пешшу. У свой час была пракладзена веладарожка, але з цягам часу яна прыйшла ў занепад і праехаць па ёй складана, асабліва ў цёмную пару. Усе намаганні мясцовага ДАІ, каб скіраваць рух пешаходаў і веласіпедыстаў на сцежку, не прыносяць вынікаў. Людзі ўсё роўна працягваюць рухацца па шашы і гінуць пад коламі аўтамабіляў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# ЧУЖАЯ КРОЎ

Медсястра зайшла ў палату і выключыла святло:

– Пара спаць, бабачкі.

– Надта ж яшчэ не хочацца, – прамовіла старая Міхаліна, зручней падмошчваючы пад галаву падушку.

– Гэта табе перад дарогай, галубка, не спіцца. Па сабе ведаю.

Бабка Кружыліна таксама, відаць, не збіралася спаць. Яна села на ложку і наважылася пагаварыць.

– Добрая ў цябе ўнучка. Пашукаць такіх. Гэта ж во прыехала з далечыні і з сабой забірае. Цяпер не надта забяруць старых. Ды і прыгожая надзвычайна. Як зайшла ў палату першы раз, дык я падума, што якая генеральша. Разадзета з галавы да ног, а беднасцю нашай не ганьбуе. Багата, відаць, жыве?

– Напэўна, – ціхенька абазвалася Міхаліна.

– Напэўна-а-а, – перадражніла яе Кружыліна. – Не ведаеш, хіба, як твая ўнучка жыве? Казаць не хочаш...

– І не ведаю. Яна ж здалёк прыехала, а я тут...

У суседняй палаце нехта моцна застагнаў, і жанчыны доўга сядзелі ў задуменні. Раптам у цемры пачулася ціхае ўсхліпванне. Плакала старая Міхаліна.

– Ну чаго ж ты? Хіба я пакрыўдзіла сваімі словамі? То даруй.

– Ой, не, мая ж ты птушачка. Я сама сябе пакрыўдзіла. Грэх на мне, бабачкі, вялікі грэх...

Мы ні пра што не распытвалі. А яна, выплакаўшыся, пачала сваю горкую споведзь.

– Наташа мне не ўнучка зусім. У майго сына з нявесткай не было дзяцей. То сын не вельмі бедаваў па гэтым, а нявестка проста змарнела ўся. Лячылася ў дактароў, да знахароў ездзіла, а карысці ніякай.

Жылі мы тады адной сям'ёй. Стары мой памёр, дык мы ўтраіх засталіся. Добрая была нявестка, не скажу, але любіла, каб па яе было. Аднойчы пасля вячэры яна прыбрала посуд, падсела да стала і кажа:

– Трэба ўзяць з дзіцячага дома дзяўчынку. Будзе нам за дачушку. Сваіх дзяцей, відаць, не прычакаем.

– Як хочаш, – лагодна адказаў мой сын.

А я ўскіпела:

– Што гэта значыць, як хочаш?! Яна можа невядома чаго захоча, а ты ўсё будзеш патураць? Каб ніякага дзіцяці, чуеце? Няма свайго, то і чужога не трэба. Або яно хіліцца да вас будзе. Вядома ж, чужая кроў.

– Вашым розумам жыць не збіраюся! – не засталася ў даўгу нявестка. – Як вырашыла, так і зраблю.

– Рабі! – кажу. – А я хату перапішу на дачку з зяцем. Мая хата, як захачу, так і распараджуся.

– Дык у іх жа ёсць свой дом, – здзівіўся маім словам сын.

– Ёсць. І яшчэ адзін будзе. А вы з тым сваім дзіцём ідзіце, куды хочаце.

З таго вечара паміж мной і імі нібы кошка прабегла: не віталіся, не гаварылі. Я думала, можа апамятаюцца, не будуць браць таго дзіцяці. Ажно не. Аднойчы вечарам прыехалі яны аднекуль і прывезлі з сабой маленькае кволае дзяўчынё. Валасы светленькія, як кудзеля, а сама худзенькая. Толькі вочы вялікія, як спадачкі, з-пад лобіка зыркаюць.

– Дамаглася-такі свайго, – кажу.

Нявестка не адазвалася.

Назаўтра раніцай я пайшла да натарыуса і перапісала хату на дачку з зяцем. Даведаўшыся пра гэта, сын з нявесткай селі ў машыну і паехалі да яе бацькоў параіцца што рабіць. Малую ў суседзяў пакінулі. Яшчэ Бог стаяў над гэтым дзіцём, бо такое горачка здарылася тады, такое горачка, – Міхаліна зноў усхліпнула. – Ці сын быў надта знерваваны і не ўбачыў таго трактара, што выехаў з бакавой дарогі, ці вельмі слізка было... Словам, на месцы смерць атрымалі. І ён, і яна... Галасіла я, валасы на галаве рвала, а што ўжо зробіш... І засталося тое дзіцянятка, каласок кволенькі, зноў круглай сіратой. Са мной жыла, у школу пачала ўжо хадзіць. Вучылася надта добра. І такая лагодная была, такая душэўная. А разумная якая! Іншы дарослы таго не разумеў, што яна ў свае маленькія гадочкі.

Так мы і жылі. Не збіралася я нікуды яе аддаваць, каб не дачка з зяцем. Прыйшлі аднойчы і заявілі:

– Пойдзеш, маці, да нас жыць, бо хату гэту мы будзем прадаваць. Купец знайшоўся, добрыя грошы дае.

– Ці вы не здурэлі?! – кажу, а ў самой ногі трасуцца, слабасць нейкая па ўсім целе разлілася, сэрца зараз спыніцца.

– Не здурэлі, – зяць упэўненым крокам хадзіў па пакоі, і пад яго грузным целам скрыпела падлога. – Хата то наша, як хочам, так і зробім.

– А з ёй жа што будзе? – кіўнула я на дзяўчынку, што ціхай мышкай затаілася ў куточку.

– А што з ёй! – хмыкнуў зяць. – У дзіцячы дом пойдзе, адкуль і прыйшла. Сама ж казала, чужая кроў. Я сваіх дзяцей не маю і чужых гадаваць не буду. Не патрэбны яны мне.

Дзяцей у дачкі не было па віне зяця, таму ён адносіўся да гэтага спакойна. А што яшчэ рабіць заставалася?

Неўзабаве малышку аформілі ў дзіцячы дом, мае рэчы перавезлі да дачкі, а ў родную хату засяліліся зусім чужыя людзі. Я па той вуліцы доўгі час хадзіць не магла, думала, сэрца разарвецца ад болю і крыўды. Але потым змірылася.

Міналі гады. Як яшчэ мела сілу, упраўлялася па гаспадарцы, то зяць з дачкой цярпелі мяне ў сваім шыкоўным доме. А як занемагла, дык у бальніцу хуценька сплавілі. А самі і вачэй не паказваюць. Ды навошта мне тая бальніца? Што дома, што ў бальніцы – усё адно. Вось каб, здаецца, у спакоі пажыць, без касых позіркаў, без папрокаў за кавалак хлеба. А так... Хіба гэта жыццё?

– Ага, саграшыла ты, Міхаліна, – і перад Богам, і перад людзьмі, абазвалася бабка Кружыліна. – Таму і цярпі ў старасці. Заслужыла, галубка, ой заслужыла.

– Я і сама ведаю, – пакорліва згадзілася Міхаліна. – Але ж праўду кажуць, што Бог не без міласці, а чалавек не без шчасця. Вось ён і прыслаў мне збавенне, анёла ў вобразе Наташы.

– Залатое сэрца ў маладзіцы. Другая і ў той бок не глянула б, не тое, што цябе ў сваю сям'ю браць.

– Што ж тут спрачацца, праўду ты кажаш...

– Паслухай, а як жа яна даведалася пра твой лёс, пра тое, што табе няма месца ў родных дзяцей?

– А яна ўсе гэтыя гады перапісвалася з дачкой нашай былой суседкі. Тая, праўда, старэйшая за Наташу гадоў на дзесяць, але ж вельмі лагодная і добрая жанчына. Яна і ў дзіцячы дом да Наташкі некалі ездзіла, і грошы пасылала, калі тая ў інстытут паступіла. А потым на вяселлі была. Яна, відаць, і расказала ўнучцы пра мой гаротны лёс.

– Бо сама вінавата, – усё ніяк не магла супакоіцца бабка Кружыліна. – От жа вырабіла, дык вырабіла. У ногі Наташы пакланіся за дабрыню яе, чырбан стары. Каб не яна, то да канца веку валяцца б табе на бальнічных ложках, на казённых пасцелях. Ды не плач ужо, што зробіш, – прамовіла лагодна, пачуўшы, што Міхаліна зноў пачала ўсхліпваць.

Больш ніхто не прамовіў ні слова.

А раніцай прыйшла Наташа. Я паступіла ў бальніцу напярэдадні вечарам і таму бачыла яе ўпершыню. Высокая, стройная, у шыкоўным норкавым футры яна выглядала сапраўднай прынцэсай – маладой і прыгожай. Погляд шэрых вачэй быў ласкавым, як майская траўка.

– Збірайцеся, бабуля. Да вакзала даедзем на таксі, а там цягніком – заўтра раніцай будзем дома.

Бачачы, што старая Міхаліна заблыталася ў сваім адзенні, яна ўмела і хутка апранула яе, завязала хустку.

– Бывайце. Хутчэйшага вам усім выздараўлення, – усміхнулася нам на развітанне і, узяўшы Міхаліну пад руку, паволі пайшла з палаты.

Міхаліна ў дзвярах прыпынілася, павярнулася. Па яе маршчыністым твары цяклі слёзы. Відаць, нешта хацела сказаць, але не знайшла патрэбных слоў і толькі махнула рукой, нібы птушка падбітым крылом.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

МІЖ ІНШЫМ

# НЕ З НАШЫМ ШЧАСЦЕЙКАМ

У вялікім горадзе на аўтавакзале да пасадачнай пляцоўкі падышоў шыкоўны аўтобус – белы і прыгожы. Я такіх ніколі не бачыла. Пасажыраў было няшмат, і, калі яны расселіся па сваіх месцах, мне таксама захацелася зазірнуць у салон. Па высокіх ступеньках паднялася ў заднія дзверы.

– Я ж прасіў, каб усе заходзілі ў пярэднія, – ветліва зрабіў мне заўвагу вадзіцель. Ён быў у чорным касцюме, белай кашулі, пры гальштуку і сядзеў у асобным пакойчыку, агароджаным ад салона сценкай. Тут была акуратная канапка, стол, на якім стаяў букет кветак. Падлога заслана дываном. Я так зразумела, што гэта месца адпачынку для вадзіцеля.

– Прабачце, але я не пасажыр, я проста хачу паглядзець.

– Ну, паглядзіце, – усміхнуўся ён і адчыніў дзверы ў салон.

Божа, які камфорт, якая прыгажосць! Пасярэдзіне паслана дывановая дарожка, на крэслы нацягнуты бялюткія чахлы.

– І куды ж вы едзеце? – пацікавілася.

– У Прагу. Паехалі з намі, – жартам прапанаваў ён.

– Ох, не з маім шчасцейкам, – уздыхнула я. – Паглядзела і хопіць.

Ён выйшаў з аўтобуса і падаў мне руку, каб зручней было спускацца па ступеньках. Было такое ўражанне, што я пабывала на іншай планеце...

Неўзабаве да суседняй пляцоўкі падышоў стары абшарпаны бразгач, які на кожнай калдобіне ляскоча ўсімі сваімі дэталямі. На гэтым аўтобусе я павінна дабірацца дамоў. Тры месяцы не стрыжаны і тры дні не голены вадзіцель з трэцяй спробы зачыніў скасабочаныя дзверы, і мы паехалі...

### Рэклама

У рыбным аддзеле вялізнага універмага ў трохлітровым слоіку боўталася даволі вялікая жывая рыба. Яе паставілі там для рэкламы. Бедная істота не магла зразумець, за што ёй паслана такая пакута. Яна хапала ротам паветра, хацела паплысці і... не магла.

– Навошта вы яе мучыце? – спытала я ў прадаўца.

– Каго? – не зразумела тая.

– Рыбку ў слоіку. Проста душа разрываецца, гледзячы.

– А вы не смотрите, – параіла жанчына.

– А вам хіба не шкада?

– Вот еще! – фыркнула маладзіца і адвярнулася.

А ў слоіку пакутавала жывая істота. Для рэкламы... Толькі што гэтым рэкламавалі прадаўцы?

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НАВІНЫ

## Указ не выполняется

**Темпы строительства жилья на селе в Гродненской области отстают от запланированных.**

В соответствии с указами президента, в этом году в сельской местности Гродненщины должно быть введено 170 тысяч квадратных метров жилья. Если доведенные задания по жилью индивидуальных застройщиков в целом выполняются, то по колхозам и госхозам допущено отставание. За девять месяцев на селе введено 85 тысяч квадратных метров. Основная причина – недостаточное финансирование. На строительство необходимо было выделить 12,75 триллиона рублей, в том числе за девять месяцев – 7,5 триллиона, а "Белагропромбанком" было выделено только 2,5 триллиона рублей. А в мае-июле кредиты вообще практически не выделялись. Подрядные организации в такой ситуации вынуждены были заниматься новыми объектами, в том числе и за пределами Беларуси.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Приют для детей

**В Гродно создается специализированный приют для выпускников учебно-воспитательных учреждений.**

В связи с этим горисполком уже принял решение о выделении здания общественной организации "Центр милосердия "Семья". После проведения ремонта и реконструкции в здании бывшего детского сада будут жить выпускники детских домов и интернатов области, получат временный приют бездомные дети, откроется общественная столовая для нуждающихся ребят.

"Центр милосердия "Семья" был создан в 1997 году. Его члены посещают малоимущие и неблагополучные семьи, помогают им продуктами питания, одеждой, обувью, защищают права детей в судах.

**Ася КУНИЦКАЯ**

 

 



Газета Слонімская
18 — 24 лістапада 1999г., № 47 (128)

## У АРТИЛЛЕРИСТОВ ПРАЗДНИК

**19 ноября воины ракетных войск и артиллерии Слонимского гарнизона будут отмечать свой профессиональный праздник, который учрежден в 1944 году в честь победы советских войск в Сталинградской битве.**

Как сообщил начальник артиллерии 11-й механизированной бригады полковник Михаил Мацкевич, воины-артиллеристы имеют на вооружении самоходную, реактивную, противотанковую артиллерию и минометы. И личный состав группы артиллерии во время недавних учений с боевой стрельбой сумел доказать, что их не зря называют "богом войны". Особенно отличились воины самоходного дивизиона под командованием Валерия Сизова, которые поразили цели с первого снаряда. 12 офицеров и сержантов этого подразделения получили благодарность от министра обороны Александра Чумакова, а Валерию Сизову было досрочно присвоено очередное звание "подполковник".

**Валентин ЧУРИЛО**

## АВТОМОБИЛИСТЫ НЕ ПОДВЕЛИ

**На недавних учениях 11-ой механизированной бригады хорошо показали себя воины-автомобилисты во главе с заместителем командира отдельного батальона материально-технического обеспечения майором Валерием Григорьевым.**



Благодаря четким и слаженным действиям автомобилистов, на огневые позиции своевременно подвозились боеприпасы, горючее и другое военно-техническое имущество. Случаев выхода из строя техники на учениях не было допущено.

**На снимке:** заместитель командира отдельного батальона МТО майор Валерий Григорьев

## ЧЕСТЬ И ДОСТОИНСТВО

**14 ноября прошло учредительное собрание республиканского общественного объединения "Белорусский конгресс офицеров (военнослужащих)" (БКОВ) — организации, у истоков создания которой стоял бывший министр внутренних дел Юрий Захаренко.**

На съезде были приняты уставные документы, определены сроки регистрации организации и избраны ее руководители. Председателем "Белорусского конгресса офицеров (военнослужащих)" избран бывший командир 5-й бригады специального назначения полковник запаса Владимир Бородач. Его заместителями стали бывшие офицеры КГБ и МВД Валерий Костко и Александр Антонюк. Высший орган БКОВ — съезд, который будет созываться не реже одного раза в три года.

В числе основных целей нового общественного объединения — защита прав уволенных из силовых структур военнослужащих и членов их семей, оказание им социальной, экономической, юридической и другой помощи, осуществление социальной адаптации уволенных военнослужащих. Принципы, на которые будет опираться БКОВ в своей деятельности — это суверенитет белорусского государства, стабильность и законность в обществе, честь и достоинство военнослужащих.

**БелаПАН**

## З НАГОДЫ СВЯТА Ў СУСЕДЗЯЎ

**На мінулым тыдні расійская міліцыя адзначыла сваё прафесійнае свята.**

Хтосьці ў нарадзе, хтосьці на баявых пазіцыях у Чэчні, а хтосьці і ў канцэртнай студыі Астанкіна. Канцэрт, прысвечаны Дню расійскай міліцыі, павінен быў расчуліць не адно суровае сэрца міліцыянера, не кажучы ўжо пра іх родных і блізкіх. Гэтаму спрыяў і адпаведны песенны рэпертуар, і віншаванні з вуснаў зорак расійскай эстрады, ды і, наогул, сама атмасфера канцэрта падкрэслівала ўрачыстасць падзеі і значнасць для сённяшняй Расіі ахоўнікаў правапарадку.

Яно і зразумела: вайна, тэрарыстычныя акты. Міліцыянер — гэта баец на перадавой, калі перадавая з Чэчні зусім нечакана перамяшчаецца ў сталіцу, і невядома дзе, у якім расійскім горадзе, прагрымяць выбухі заўтра.

Калі міліцыянеры змагаюцца з тэрарыстамі, "зачышчаюць" чачэнскія гарады і сёлы ад баевікоў — яны героі, бо служаць сваёй краіне і, натуральна, знаходзяць разуменне і павагу ў суайчыннікаў. І зусім іншае, калі атрады амапаўцаў разганяюць калоны дэманстрантаў і збіваюць людзей, як падчас "Маршу свабоды" у Мінску...

Як не круці, а Беларусь і Расія — розныя краіны, і міліцыя ў кожнай свая. І гістарычна склалася так, што атрады рабоча-сялянскай міліцыі ў Расіі былі створаны ў лістападзе 1917 года, а ў Беларусі бальшавік Міхаіл Фрунзе першы атрад міліцыі арганізаваў у Мінску раней, у сакавіку 1917 года. Так што прафесійнае свята беларускіх міліцыянераў яшчэ наперадзе. Ва ўсякім разе па календары. Бо 10 лістапада беларуская міліцыянеры святкавалі Дзень расійскай міліцыі, як сваё уласнае свята. Віншавалі адзін аднаго і адзначалі гэты дзень па славянскай традыцыі. Толькі што не на дзяржаўным (беларускім) узроўні. Гэта, вядома, не значыць, што ў сакавіку наступнага года беларуская міліцыя забудзецца пра Дзень беларускай міліцыі. Можна не сумнявацца, што гэты дзень будзе адзначацца на высокім дзяржаўным (беларускім) узроўні. Вось толькі расійскім міліцыянерам наўрад ці прыйдзе ў галаву віншаваць 4 сакавіка адзін аднаго са святам... беларускай міліцыі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# 30 ЛЕТ В СТРОЮ



На прошлой неделе воины-артиллеристы тепло проводили на заслуженный отдых своего коллегу, заместителя командира группы артиллерии по вооружению подполковника Георгия Иохима. 30 лет отдал этот офицер службе в армии. В 1971 году после окончания Одесского артиллерийского училища служил командиром взвода в Чехословакии, а в 1976 году прибыл в Слонимскую дивизию на должность командира минометной батареи. С каждым днем росло профессиональное мастерство офицера, и это не осталось незамеченным командованием части. Вскоре Георгий Иохим был направлен по службе военным советником в Алжирскую республику, где за выполнение особого задания был награжден орденом "За службу Родине в вооруженных силах" 3 степени.

Последние семь лет своей службы подполковник Георгий Иохим находился на должности заместителя командира группы артиллерии по вооружению. За 30 лет службы Георгий Михайлович Иохим имеет более 70 поощрений от командования бригады.

**На снимке:** подполковник Георгий Иохим

**Валентин ЧУРИЛО**

# БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ

**Приказом министра обороны Беларуси за достигнутые высокие результаты во время учений и большой личный вклад в повышение боевого мастерства своих подчиненных, командиру саперного батальона 11-ой механизированной бригады майору Сергею Федосюку досрочно присвоено очередное воинское звание "подполковник".**



Бывает, встретишься с человеком впервые, поговоришь и у тебя складывается впечатление, что с ним знаком давным-давно. Так было и в случае с подполковником Сергеем Федосюком, которого мне представили как грамотного военного, специалиста высокого класса. Наверное, сказалась открытость, доброжелательность характера комбата. И собеседником он оказался довольно интересным.

Родом он со Слонима. После окончания в 1987 году СШ №10 поступил в Тюменское высшее инженерное училище. Первым местом службы лейтенанта стала Западная группа войск в Германии на должности командира взвода. Затем служба в Слониме, где ему через некоторое время доверили роту, а затем и батальон.

— Выбор военной профессии — это довольно ответственный момент в моей жизни. Ведь кого-то влечет судьба романтика, кто-то хочет продолжить семейную традицию, а кто-то идет в армию лишь потому, что твердо решил стать военным, — говорит Сергей Федосюк. — У меня же в роду никого из военных не было. Но я без колебаний подал документы в инженерное училище. Опыта после училища, конечно же, было маловато, — не скрывает он, — но был большой интерес к службе. Он остался и теперь. Правда, забот и ответственности с каждой новой должностной ступенькой становится все больше. Но опыт, который приобретается, тоже немало значит. Много приходится работать с молодыми солдатами. И, хотя есть взводные и ротные командиры, сам стараюсь чаще встречаться с ними. Ведь не так-то просто подготовить настоящего сапера, который не имеет права на ошибку.

Еще в 1995 году Сергею было досрочно присвоено звание капитана за успешное разминирование. Тогда комбат Федосюк был награжден и медалью "За разминирование".

**На снимке:** командир саперного батальона подполковник Сергей Федосюк

**Валентин ЧУРИЛО**

**ФОТААРХІЎ**

## 80-ты ПЯХОТНЫ ПОЛК

**У 1920-30-я гады ў Слоніме дыслакаваліся два пяхотныя палкі польскага войска: 79-ты і 80-ты.**

**У гэтых вайсковых адзінках служыла шмат слонімцаў, а сярод іх брат Марыі Мікалаеўны Селівончык (Стрык) з вёскі Задвор'е Слонімскага раёна. Яна захавала шэраг рэдкіх здымкаў, на якіх бачым жаўнераў і афіцэраў 80-га пяхотнага палка.**

**Сяргей ЁРШ**





## Армейские анекдоты

В армейской столовой:
— Товарищ старшина, мясо положено!
— Положено, так ешь!
— Так ведь не положено!
— А если не положено, не ешь!

Транспортный самолет совершил посадку. К прапорщику подбегает ефрейтор:
— Разрешите доложить. Рядовой Сидоров опять выпрыгнул без парашюта.

Прапорщик опоздал на службу на два с половиной часа. Пришел весь в бинтах. Полковник интересуется, в чем причина задержки.
— Я упал с пятого этажа.
— Стыдно врать, товарищ прапорщик. Что же вы — с пятого этажа два часа летели?

Прапорщик отчитывает сержанта:
— У тебя во взводе одни разгильдяи, а ты волосы на пробор носишь...

Новобранец жалуется своему товарищу по службе:
— Совсем озверел наш лейтенант. Только что вкатил мне четверо суток губы.
— За что?
— Не знаю. Но двое суток — как раз за этот вопрос.

— Товарищ ефрейтор, сколько вы можете оставаться под водой?
— По-разному, товарищ прапорщик.
— Это как?
— Все зависит от того, как скоро меня обнаружат и вытащат на берег.

Генерал останавливает на улице пьяного солдата:
— Ты кто?
— Я дембель. А ты кто?
— Я генерал.
— Тоже неплохо.

Замполит ругает солдата-радиста, что тот убежал в столовую, не убрав рабочего места.
— Вам легко, товарищ майор, — оправдывается боец, — вы рот закрыли — и ваше рабочее место убрано.

Выходит пьяный прапорщик:
— Товарищ генерал, докладывает командир танкового корпуса прапорщик Тюлькин!
— Прапорщик — и командир танкового корпуса?! — поражен генерал. — Как вам это удалось?
— Понимаете, движок пропили, пушку пропили, гусеницы пропили, один корпус остался.

Прапорщик наводит в роте порядок:
— Вот вы сейчас матом ругаетесь, а потом этими руками будете хлеб брать! Ругаются матом, понимаешь, как малые дети... А вы, рядовой Петров, если хотите что-то сказать, то стойте и молчите!.. Что за свинья здесь прошла — корова, что ли? Эй, вы, трое, оба ко мне, я тебя узнал. Или ты перестанешь курить, или одно из двух... Сегодня копаем траншею, с лопатами я уже договорился. И запомните: по команде "отбой!" наступает темное время суток!

Плакат на здании артиллерийского училища: "Наша цель — коммунизм!".

В столовой:
- Кто дежурный?
- Я, товарищ полковник!
- Почему не кладете лавровый лист в суп?
- Не жрут, товарищ полковник!

- Бабушка, пусти переночевать.
- Заходи, солдатик.
- Да я не один... С ефрейтором.
- Ничего, привяжи его к забору.

 

